Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 13 470.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Серада, 4 лютага 1998 г. | № 9 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### «Падрыўны цэнтр» у Беластоку

**Беларускае тэлебачанне зноў нагадала пра славуты бізнес-план на 32 мільёны амерыканскіх долараў.**

Аказваецца, фінансаванне ўжо пачалося, і наша апазіцыя прыступіла да рэалізацыі гэтага плана, накіраванага на звяржэнне прэзідэнта Лукашэнкі. Па словах каментатара БТ, наступ пачнецца з тэрыторыі Польшчы. У горадзе Беластоку ўжо створаны магутны цэнтр, які будзе займацца падрыўной дзейнасцю ў Беларусі. Намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка нават наведаў гэты цэнтр — дзеля таго, каб узгадніць з палякамі план дзяржаўнага перавароту. Такая вось «страшылка» прагучала пазаўчора ў інфармацыйнай праграме «Панарама».

Дарэчы, наш карэспандэнт таксама быў разам з Вячоркам (і не толькі з ім) у беластоцкім «падрыўным цэнтры». У гэты самы час там знаходзіўся і афіцыйны прадстаўнік беларускіх уладаў — Мікалай Крэчка, генеральны консул Беларусі ў Беластоку, якога запрасілі на адкрыццё цэнтра. Поўная назва арганізацыі гучыць так: Цэнтр грамадзянскай адукацыі «Польшча — Беларусь». У склад рады, якая будзе кіраваць працай цэнтра, увайшлі вядомыя польскія палітыкі, дэпутаты сейма, міністры, пісьменнікі, журналісты. Прэзідэнтам цэнтра абраны былы дэпутат сейма Артур Смулка, а намеснікамі сталі беластоцкія беларусы Алег Латышонак і Яўген Вапа. Цэнтр будзе займацца арганізацыяй сустрэчаў, семінараў, канферэнцыяў з удзелам беларускіх і польскіх палітыкаў, дзеячаў культуры, журналістаў, маладых актывістаў з самых розных грамадскіх арганізацыяў Беларусі і Польшчы. Цэнтр будзе месцам спаткання людзей, якім блізкія каштоўнасці дэмакратыі і свабоды.

Будзем спадзявацца, што наш генеральны консул Мікалай Крэчка, які два дні прысутнічаў на канферэнцыі ў «падрыўным цэнтры» і выказаў падзяку арганізатарам, знойдзе магчымасць, каб паведаміць Беларускаму тэлебачанню аб'ектыўную інфармацыю. Нельга ж так часта палохаць з экрана таварыша прэзідэнта і ягоных прыхільнікаў.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

### 10 сутак за пікет салідарнасці

**Яшчэ аднаго віцебскага апазіцыянера пасадзілі за краты.**

У пятнічным нумары НАВІНАЎ мы паведамлялі, як у Чыгуначным райсудзе Віцебска нібыта за арганізацыю несанкцыянаванага пікету былі асуджаныя актывісты мясцовай рады БНФ «Выбар» Барыс Хамайда і Юрый Мароз. Пасля вынясення прыгавору лідэр гэтай франтаўскай суполкі Уладзімір Плешчанка арганізаваў пікет у падтрымку зняволеных сяброў.

Міліцыянты арыштавалі апазіцыянера, які ў пратаколе аб правапарушэнні напісаў, што не падпарадкоўваецца ўказам, дэкрэтам і законам, выдадзеным Лукашэнкам, а дзейнічае на падставе Канстытуцыі 1994 г. Суддзя Святлана Туфан (якая, дарэчы, асудзіла Хамайду і Мароза) палічыла гэтыя словы Плешчанкі «абцяжарваючымі віну акалічнасцямі» — і прыгаварыла лідэра мясцовых апазіцыянераў да 10 сутак арышту.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



*На здымку: рэгуліроўшчык рынкавага сацыялізму (горад Стоўбцы Мінскай вобл.).*

## Французы купляюць цэментны завод

**Французская фірма *Lafarge*, адзін з еўрапейскіх лідэраў у вытворчасці будаўнічых матэрыялаў, вырашыла купіць у Беларусі Краснасельскі цэментны завод, які ўваходзіць у аб'яднанне «Ваўкавыскцэментагашыфер». Здаецца, фармальнасці ўладзілі, і хутка адбудзецца падпісанне дамовы.**

Спачатку беларускі бок выстаўляў умову, каб *Lafarge* сплаціла даўгі завода за газ — а яны складаюць значную суму — 8 млн. долараў. Беларускаму ўраду таксама не падабалася, што французы хочуць мець кантрольны пакет акцыяў. Перамовы цягнуліся амаль два гады.

Урэшце рэшт дамовіліся, што французы атрымаюць не менш за 51% акцыяў, фірма збіраецца ўкласці ў вытворчасць больш за 25 млн. долараў — прадпрыемства сапраўды патрабуе значнай мадэрнізацыі.

Такім чынам, нягледзячы на палітычную нестабільнасць, невысокі інвестыцыйны рэйтынг Беларусі на Захадзе, яшчэ адзін праект прыватызацыі з удзелам замежнага інвестара наблізіўся да рэалізацыі. Чаму ж некаторыя заходнія фірмы не баяцца інвеставаць у беларускую эканоміку?

Рызыкуюць пераважна гіганты. Звярніце ўвагу: сярод інвестараў, якія арганізавалі альбо купілі буйныя прадпрыемствы ў Беларусі — перш за ўсё транснацыянальныя карпарацыі *ТНК*, *Ford*, *Coca-Cola*, *MacDonalds* і яшчэ *Lafarge*. Толькі *ТНК* маюць дастаткова грошай, каб не баяцца інвеставаць у краіну з такім вялікім узроўнем рызыкі. *ТНК* можа паступіцца прыбыткам дзеля выгадаў у будучыні. Іхняя тактыка — любой цаной прыйсці і захапіць рынак, нахай самы неразвіты, раней за канкурэнтаў.

Што датычыць кампаній, якія не валодаюць вялікімі фінансавымі рэсурсамі, то яны вымушаныя зважаць на неспрыяльны інвестыцыйны клімат у Беларусі. Як паказаў прыклад амерыканскай кампаніі *Westray* і яе няўдалае супрацоўніцтва з гомельскім заводам «Карал», эканамічная нестабільнасць і бюракратызм нашай сістэмы прымусілі амерыканцаў адмовіцца ад далейшай рэалізацыі праекта.

Але ж пад'ём беларускай прамысловасці могуць забяспечыць якраз дробныя і сярэднія інвестары, а не гіганты, якія створаць некалькі сваіх філіяў. І цяпер Беларусь паступова страчвае свой выдатны патэнцыял — кваліфікаваную працоўную сілу і адносна развітую прамысловасць.

**Алесь САДОЎСКІ**

### Суд адмяніў 70 мільёнаў штрафу

**Старшыня Гомельскага абласнога суда П.Міклашэвіч, разглядаючы апеляцыю кіраўнікоў арганізацыі «Грамадзянскія ініцыятывы» Віктара Карніенкі і Уладзіміра Кацоры, прызнаў іх невінаватымі.**

Нагадаем, што ў снежні суддзя Цэнтральнага райсуда Гомеля У.Бягун абвінаваціў В.Карніенку і У.Кацору ў арганізацыі несанкцыяванага сходу і аштрафаваў іх на 40 і 30 мільёнаў рублёў за парушэнне прэзідэнцкага дэкрэта №5. «Несанкцыяваным сходам» суд палічыў сустрэчу чытачоў з журналістамі незалежных газет «Свабода», «Імя» і «Народная воля». У лік вінаватых тады трапіў і дырэктар кінатэатра імя Калініна, які даў у арэнду залу.

Старшыня абласнога суда Міклашэвіч прызнаў пастанову раённага суддзі неабгрунтаванай. Ён устанавіў, што «мерапрыемства арганізоўвалася і праводзілася як чыстая канферэнцыя-сустрэча, а не сход грамадзян» і не падпадае пад дзеянне дэкрэта №5.

Каментуючы сітуацыю, Віктар Карніенка заявіў, што справа «ад самага пачатку была шытая белымі ніткамі». «Улады імкнуцца кантраляваць любую грамадскую дзейнасць, і рашэнне абласнога суда не варта расцэньваць як аднаўленне справядлівасці. Перад пачаткам працы ў Беларусі спецыяльнай місіі АБСЕ ўлады стараюцца паказаць, што ў нас быццам бы захоўваюцца правы чалавека. Але няма ніякіх падставаў верыць у гэта», — лічыць В.Карніенка.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



### Палкоўнік КДБ збіраецца ў Іран

**52-гадовы палкоўнік Леанід Рачкоў прызначаны паслом Беларусі ў Іран. Ён ужо атрымаў агрыман (згоду) ад уладаў гэтай ісламскай краіны.**

Л.Рачкоў у свой час працаваў у КДБ і некалькі гадоў служыў у Афганістане. Цяпер ён пакідае пасаду старшыні камісіі па міжнародных справах у «палаце прадстаўнікоў». У сакавіку плануецца афіцыйны візіт прэзідэнта Лукашэнкі ў Тэгеран, тады ж і мяркуецца адчыніць беларускую амбасаду ў Іране.

Леанід Рачкоў сказаў, што Іран — гэта *«найцікавейшая краіна, якая з'яўляецца ключом да ўсяго Усходу»*. На думку пасла, *«у нас шмат блізкіх пазіцый як у пытаннях знешняй палітыкі, так і ў гандлёва-эканамічнай сферы»*. Л.Рачкоў лічыць, што трактары, машыны і хімічную прадукцыю з Беларусі з нецярпеннем чакаюць у Іране.

І ўсё ж ёсць адна няўручнасць: паслу Рачкову давядзецца купіць паранджу для сваёй жонкі. У Іране, ісламскай краіне, жанчынам не рэкамендуецца і проста небяспечна з'яўляцца ў публічных месцах з непрыкрытым тварам.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

### Куды едуць з Беларусі?

**У 1997 годзе з Беларусі выехала 17 тысяч чалавек.**

Міністэрства статыстыкі і аналізу пры гэтым сцвярджае, што паток мігрантаў, якія выехалі з Беларусі за межы былога Савецкага Саюза, знізіўся з 8,5 тысячы чалавек у 1996 годзе да 7 тысяч у 1997г. Звыш 80% эмігрантаў выехалі ў Ізраіль, ЗША і Германію.

*БелаПАН*

## Жорсткія ўмовы дыялогу з Еўропай

**Пазаўчора прадстаўнік Еўрапейскай камісіі ў Беларусі пан Луіс Марэна меў сустрэчу з прэзідэнтам Лукашэнкам.**

*«Мінск у прынцыпе гатовы працягваць дыялог з Еўрапейскім Саюзам. Аднак гэта павінна адбывацца без дыктату і ўціску з боку ЕС»*, — заявіў прэс-сакратар прэзідэнта Валерый Талкачоў, гаворачы аб выніках сустрэчы. Па словах прэс-сакратара, абмяркоўваліся пераважна праблемы эканамічнага характару. У прыватнасці, гаворка ішла пра антыдэмпінгавыя санкцыі ЕС у дачыненні да беларускіх тавараў — калійнай солі і поліэфірных валокнаў. Еўропа ўвяла на гэтую прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў пастаянныя антыдэмпінгавыя пошліны ў памеры 43,5%.

Па звестках з урадавых крыніцаў, ЕС пацвердзіў сваё рашэнне аб часовым спыненні фінансавай дапамогі Беларусі ў рамках праграмы *TACIS*. Выключэнне складаюць 5 млн. ЭКЮ (каля 6 млн. долараў) на рэалізацыю праектаў падтрымкі дэмакратычных працэсаў і СМІ, а таксама рэгіянальных праектаў (у тым ліку стварэння інфраструктуры каля дзяржаўнай мяжы).

Узаемаадносіны Беларусі з ЕС моцна ўскладніліся пасля рэферэндуму 1996 года. 12 снежня 1996 г. Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю, якая фактычна прыпыніла ратыфікацыю пагаднення аб супрацоўніцтве і гандлі. 15 верасня 1997 года Савет ЕС прыняў «Заключэнне аб узаемаадносінах ЕС з Беларуссю», дзе афіцыйна не прызнаў легітымнасць новай канстытуцыі. Прадстаўнікі Еўрасаюза таксама неаднаразова адзначалі *«адсутнасць у Беларусі прагрэсу ў сферы дэмакратычных пераўтварэнняў»*. Яны таксама крытыкуюць афіцыйны Мінск за прыпыненне работы трохбаковай камісіі, у якую ўваходзілі прадстаўнікі прэзідэнта, апазіцыі і еўраструктур.

Аднак прэс-сакратар прэзідэнта В.Талкачоў сцвярджае, што ў апошні час ЕС *«не праяўляе спробаў аднавіць работу трохбаковай камісіі і звязвае далейшае развіццё адносінаў з ходам дзейнасці кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі»*.

*Інтэрфакс*

## Універсітэт змагаецца з тэрарыстамі

**У вышэйшых навучальных установах Гомеля сур'ёзна пачалі змагацца з тэрарызмам.**

Прыкладам, рэктар Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф.Скарыны на падставе прэзідэнцкага дэкрэта № 21 «Аб неадкладных мерах па барацьбе з тэрарызмам» выдаў загад, паводле якога дэканам факультэтаў, загадчыкам кафедраў і начальнікам структурных падраздзяленняў неабходна «весці тлумачальную работу з выкладчыкамі і студэнтамі аб небяспечнасці тэрарыстычных актаў; выяўляць асоб, якія прадстаўляюць пагрозу і паграджаюць прымяненнем насілля да выкладчыкаў і студэнтаў; не дапускаць выпадкаў наўмыснага знішчэння маёмасці». Акрамя таго, загадам прадпісваецца ўвядзенне прапускнога рэжыму не толькі ў студэнцкіх інтэрнатах, але і ў вучэбных корпусах ГДУ.

**Ганна АСКЕРКА**

## Дацкія сацыял-дэмакраты ў Мінску

**На мінулым тыдні ў Мінску знаходзілася дэлегацыя кіруючай партыі Даніі — Сацыял-дэмакратычнай. Яе ўзначальваў старшыня партыйнай камісіі па міжнародных пытаннях Стэн Крыстансан.**

Дацкія госці прыехалі па запрашэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада», аднак іх візіт зусім не абмяжоўваўся кантактамі толькі з беларускімі аднадумцамі. За два дні дацкія сацыял-дэмакраты сустрэліся са старшынёю Вярхоўнага Савета С.Шарэцкім і прадстаўнікамі розных палітычных партыяў. Датчане выказалі задавальненне, што ў экстрэмальных беларускіх умовах самыя розныя плыні — БНФ, камуністы, сацыял-дэмакраты, лібералы — знаходзяць агульную мову і працуюць разам. Апроч таго, дацкія госці мелі сустрэчы з кіраўнікамі незалежных прафсаюзаў, прадстаўнікамі ПЭН-цэнтра і Беларускага Хельсінкскага камітэта. Апошнія распавялі пра шматлікія факты парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі. Датчане заявілі, што прыкладуць усе намаганні, каб еўрапейскія структуры паводзілі сябе ў дачыненні рэжыму Лукашэнкі яшчэ больш жорстка.

На другі дзень свайго візіту госці наведалі Салігорск, дзе сустрэліся з прадстаўнікамі некалькіх рэгіянальных арганізацыяў беларускіх сацыял-дэмакратаў і незалежных прафсаюзаў, а таксама спусціліся ў шахты. Датчане былі ўражаныя цяжкімі і небяспечнымі ўмовамі працы шахцёраў. Госці зрабілі выснову, што пры такіх умовах чалавечыя ахвяры непазбежныя, і пыталіся, колькі людзей у год гіне на салігорскіх шахтах. Іншаземцаў супакоілі, што нашыя людзі прыстасаваліся выжываць у любых умовах, і выпадкі гібелі людзей на шахтах з'яўляюцца выключнымі.

Беларускія і дацкія сацыял-дэмакраты дамовіліся наконт рэгулярнага абмену інфармацыяй і дэлегацыямі. У прыватнасці, запланаваная паездка ў Капенгаген кіраўнікоў 20 мясцовых арганізацыяў БСДП.

У сакавіку ў Мінск павінны прыехаць галандскія сацыял-дэмакраты.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Алімпійскія цэны

**Зімовыя Алімпійскія гульні ў Нагана прынясуць некаторым прадпрыемствам дадатковыя прыбыткі, а пакупнікам — страты.**

Рэч вось у чым. Яшчэ ў часы Кебіча ўрад дазволіў прадпрыемствам, якія размяшчаюць на сваіх таварах алімпійскую сімволіку, павышаць цэны на гэтыя тавары на 30%. Камітэт цэнаў пры міністэрстве эканомікі пацвердзіў гэты дазвол. Прычына простая — палову прыбыткаў ад павышаных коштаў прадпрыемствы павінны аддаваць Нацыянальнаму алімпійскаму камітэту. І кіраўнік гэтага камітэта (па сумяшчальніцтве ён, як вядома, яшчэ і прэзідэнт краіны) у такой сітуацыі не пратэстуе супраць росту цэнаў.

Шэраг прадпрыемстваў ужо выказалі гэтую магчымасць абысці жорсткае дзяржаўнае рэгуляванне. Галоўнае, каб не дайшло да таго, што ўсе беларускія тавары ў крамах будуць мець алімпійскую сімволіку.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Расійскія дызелі для беларускіх аўтамабіляў

**У гэтым месяцы ў Маскве плануецца зарэгістраваць сумеснае прадпрыемства «Цэнтральная кампанія «БелРусАўта».**

Яно стане асновай міждзяржаўнай фінансава-прамысловай групы «БелРусАўта». Наконт гэтай ФПГ ёсць пагадненне паміж урадамі Беларусі і Расіі. З расійскага боку ў кампаніі будзе 6 акцыянераў (АТ «Аўтадызель», Крэдытімпексбанк, Ространбанк, Яраслаўскі завод паліўнай апаратуры, Яраслаўскі завод дызельнай апаратуры і Тутаеўскі маторны завод), з беларускага — 5 (МАЗ, Мінскі завод колавых цягачоў, БелАЗ, Магілёўскі аўтамабільны завод, Белпрамбудбанк). Такім чынам, расіяне атрымаюць больш акцыяў, а беларускае аўтамабілебудаванне будзе развівацца пад іх кантролем.

**Вераніка СТРОЕВА**

## Польская бібліятэка вяртаецца ў Мінск

**У мінулую пятніцу ў Беластоку адбылася цырымонія сімвалічнага вяртання Мінску кніжак былой польскай бібліятэкі.**

Польскія ўлады перадалі беларускай дэлегацыі больш за 6.000 розных кніг, у тым ліку і рэдкія каштоўныя выданні. Кнігазборам будзе апекавацца хрысціянскае таварыства міласэрнасці на чале з ксяндзом Уладзіславам Завальнюком, пробашчам мінскага касцёла святых Сымона і Алены.

Польская бібліятэка імя Адама Міцкевіча пры Чырвоным касцёле ў Мінску адчынілася ў 1908 годзе. У 1920 г. падчас адступлення войскі Пілсудскага вывезлі кнігазбор на тэрыторыю Польшчы. Сёлета, у 200-я ўгодкі з дня нараджэння Адама Міцкевіча, частка кніг вярнулася ў родны горад.

**Пятро РАГОЙША**

# Інфармацыйны рынак – новы козыр Лукашэнкі

**Падобна на тое, што зацяжная «інфармацыйная вайна» расійскіх электронных СМІ супраць беларускага прэзідэнта, пачатая пасля арышту здымачнай групы ОРТ, скончылася поўнай перамогай Аляксандра Лукашэнкі.**

Шарамет і Завадскі прызнаныя злачынцамі і асуджаныя — на два і паўтара года пазбаўленыя волі ўмоўна. Факт беспрэцэдэнтны і абуральны. Але рэакцыя расійскіх тэлеканалаў на гэтую падзею была надзвычай стрыманай. У інфармацыйных праграмах ОРТ і НТВ з гэтай нагоды прайшлі толькі кароткія сюжэты і такія ж кароткія каментары. Пафасных абвінавачванняў на адрас беларускага дыктатара з боку Сяргея Дарэнкі і іншых зорак маскоўскай тэлежурналістыкі гледачы так і не дачакаліся.

А іх проста і не магло быць, бо змянілася палітычная кан'юнктура. Нагадаем, што напярэдадні вынясення ў Ашмянах прысуду журналістам ОРТ у Мінск прыляцела прадстаўнічая дэлегацыя кіраўніцтва асноўных расійскіх СМІ. Ініцыятар паездкі Барыс Беразоўскі даставіў на сваім асабістым самалёце ў госці да Лукашэнкі генеральнага дырэктара ОРТ Ксенію Панамарову і шэфа НТВ Алега Дабрадзеева, а таксама галоўных рэдактараў «Новых Известий» Ігара Галембіоўскага, «Независимой газеты» Віталя Траццякова і часопіса «Итоги» Сяргея Пархоменку. Разам з Беразоўскім прыляталі і вядомыя тэлежурналісты Уладзімір Познер і Сяргей Дарэнка. Пазней да цёплай кампаніі, якую ў неафіцыйнай абстаноўцы ў рэзідэнцыі «Заслаўе» прымаў Лукашэнка, далучыліся прэзідэнт кампаніі ТВ-6 Эдуард Сагалаеў і вядомы тэлемагнат, гаспадар кампаніі «Мост-Медыя» Уладзімір Гусінскі.

Відавочна, што Лукашэнка вырашыў пасябраваць з гаспадарамі найбольш уплывовых расійскіх СМІ. Ён разумее, што перамагчы ў барацьбе за крамлёўскі пасад, не заручыўшыся падтрымкай магутных мас-медыя, будзе немагчыма. Некалі Лукашэнка заявіў, што ён будзе дамаўляцца не з расійскімі журналістамі, а з іх гаспадарамі. Цяпер ён прыступіў да рэалізацыі сваіх планаў.

Безумоўна, ёсць тут свой інтарэс і ў маскоўскай журналісцкай эліты. Сагалаеў, напрыклад, зацікаўлены ў пашырэнні аб'ёмаў вяшчання ТВ-6, галоўныя рэдактары друкаваных выданняў — у распаўсюджванні сваёй прадукцыі на тэрыторыі Беларусі. Але галоўнае пытанне, якое непакоіць уладальнікаў тэлеімперыяў Беразоўскага і Гусінскага, — хто будзе фармаваць інфармацыйную сетку агульнага беларуска-расійскага канала (рашэнне аб яго стварэнні было падпісанае на нядаўнім саміце ў Маскве). У нядзельным «Рэзанансе» каментатар Аляксандр Зімоўскі (дарэчы, адзіны беларускі журналіст, дапушчаны на сустрэчу ў Заслаўі) сказаў, што беларускі інфармацыйны рынак для буйнейшых расійскіх медыяў застаецца адкрытым. У Расіі ж гэты рынак даўно падзелены паміж тэлерадыёгігантамі і вялікімі выдавецкімі канцэрнамі. Вяшчанне новага «саюзнага» канала хутчэй за ўсё будзе адбывацца на ўжо гатовых частотах (магчыма ОРТ або НТВ). Лукашэнка быў проста вымушаны запрасіць да сябе ў госці людзей, якіх яшчэ зусім нядаўна публічна называў жулікамі.

Так што інтарэс двухбаковы. У гэтых умовах лішні раз мусіраваць справу Шарамета было б недарэчна: нашто ж наступаць адзін аднаму на мазалі? Выходзіць, што кіраўнікі ОРТ, штатным супрацоўнікам якога з'яўляецца Павел Шарамет, проста здалі яго — дзеля палітычных інтарэсаў цяперашняга моманту.

У пятніцу Барыс Ельцын, уручаючы ў Крамлі прэміі расійскім журналістам, падзякаваў ім за тое, што яны «*вытрымалі Беларусь і не сарваліся*». Расійскі прэзідэнт у чарговы раз выказаў спадзяванне, што Лукашэнка будзе сталець як палітык, «*падрасце розумам*». А Расія, па словах Ельцына, будзе яго «*выхоўваць*», у тым ліку і пры дапамозе СМІ.

Што ж, паглядзім...

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Кашалёк і самасвядомасць

### Гандаль па-за палітыкай?

У Гродне адбыўся людны сход прадпрымальнікаў, на які сабралася больш за тысячу чалавек. Усе месцы ў самай вялікай зале горада былі занятыя, людзі стаялі ў праходах, у дзвярах, у вестыбюлі. Новыя падатковыя правілы нарэшце зачапілі за жывое публіку, якая раней кпіла з тых, хто хадзіў на антыдыктатарскія мітынгі. «*Нас палітыка не датычыць,* — гаварылі яны. — *Наша хата з краю. Мы займаемся гандлем, не ў сваю справу не лезем*».

Цяпер жа, калі свабодна правесці мітынг стала немагчыма, калі ўсе зразумелі, што свабодных і справядлівых выбараў не будзе, гэтыя людзі нарэшце заварушыліся. «*Але ці не запозна?* — рытарычна пытаюцца некаторыя з мясцовых палітычных лідэраў. — *Раней яны на выбары грошы шкадавалі, а цяпер, калі ў Беларусі разагнаны дэмакратычна абраны парламент, яны загаварылі нават пра стварэнне сваёй палітычнай партыі*» (каб, як гаварылася на сходзе, «*уплываць на палітыку дзяржавы праз выбарныя органы*»).

Зрэшты, са стварэннем партыі вырашылі пачакаць, хоць пытанне было ў парадку дня. Папершае, 500 чалавек неабходна сагітаваць, а па-другое, вырашана пачынаць «эвалюцыйна» — з эканамічных патрабаванняў. Для палітычных, маўляў, «яшчэ не надышоў час».

### Калі ёсць што губляць

Праўда вочы коле, але сапраўды занадта доўга дробныя прадпрымальнікі захоўвалі «нейтралітэт». З другога боку, іхні выбар



*Абвясціўшы бестэрміновую забастоўку, прадпрымальнікі баяцца, што знойдуцца штрэйкбрэхеры, якія будуць працягваць працу на рынках.*

сёння — знамянальная падзея. Нарэшце да барацьбы далучаюцца людзі, якім ёсць што губляць у матэрыяльным сэнсе, бо іх папросту вырашылі абрабаваць, надаўшы рабаванню форму законнасці.

Кволасць апазіцыйнага руху дагэтуль была ў тым, што ў ім былі людзі, якія заклікалі, перадусім, абараняць духоўныя каштоўнасці — незалежнасць, правы чалавека, мову. Самі яны, як правіла, мала што маюць, ім няма чаго губляць. Але без людзей заможных, без сваёй «дробнай буржуазіі» адваяваць свабоду і незалежнасць, бадай, немагчыма.

### Небяспека штрэйкбрэхерства

Калі прадпрымальнікаў прыціскаюць, у іх абуджаюцца і патрыятызм, і нацыянальная самасвядомасць. Абвясціўшы бестэрміновую забастоўку, яны баяцца, што знойдуцца штрэйкбрэхеры, якія будуць працягваць працу на рынках. Перадусім гэта датычыць грамадзян суседніх краінаў, якія стала гандлююць у Гродне.

Адзін з удзельнікаў сходу пад смех і ўхвальныя воплескі заявіў: «*Мы — беларусы. Нам трэба паўплываць на гандляроў з замежжа — палякаў, літоўцаў і рускіх*». А другі дадаў: «*Калі яны будуць у лютым працягваць гандляваць, гэта будзе для іх небяспечна*».

Дарэчы, вырашана было стварыць забастовачны камітэт, а таксама свае дружыны, якія будуць сачыць за парадкам і магчымымі выпадкамі штрэйкбрэхерства. Акцыю павінны падтрымліваць і працаўнікі камерцыйных кіёскаў у горадзе.

### Гэта – канкурэнтная барацьба

Самыя свядомыя разумеюць усё без ілюзій. Калі іхні бізнес хочуць задушыць, значыць, гэта камусьці выгадна. А выгадна гэта можа быць тым, хто калісьці быў пры ўладзе, а цяпер мае буйныя фірмы і хоча знішчыць дробных канкурэнтаў.

«*Мы перашкаджаем зарабляць больш грошай тым, хто і так мае іх шмат, значна больш за нас*», — сказаў прадпрымальнік С.Данільчук. Рынкі нявыгадныя таксама дзяржаўным крамам, дзе тыя ж самыя тавары і прадукты прадаюцца даражэй, чым на рынку, на 30—50%.

Яго падтрымаў А.Казакоў, які сказаў, што трэба ўпарта змагацца за свае правы, баставаць, хоць у яго асабіста грошай на жыццё хопіць толькі да сярэдзіны лютага.

### Мітынг з прэзідэнцкім партрэтам?

На сходзе было дамоўлена аб стварэнні абласнога прафсаюза прадпрымальнікаў. Яго статут будзе абмеркаваны на наступным сходзе, які збярэцца 9 лютага.

Наступная акцыя — масавы мітынг, які прадпрымальнікі збіраюцца правесці ў гэтым месяцы. Ужо сабралі грошы, каб купіць гучнагаварыльнік, узмацняльную тэхніку, матэрыялы для транспарантаў. Старшыня прафсаюза рынка «Паўднёвы» В.Леванеўскі сказаў: наша мэта — паказаць, што дзеяннямі падатковых органаў незадаволеная асноўная маса прадпрымальнікаў.

Наконт транспарантаў. Мітынг як бы хочуць правесці ў падтрымку прэзідэнцкага ўказа № 70, якім год назад замацоўваўся фіксаваны падатак з прадпрымальнікаў. Вось і надпісы на транспарантах будуць адпаведныя: «*Хто супраць нас з прэзідэнтам?*» або «*Прэзідэнт, вы — з намі?*» Хоць ілюзій наконт апошняга пытання ў большасці прадпрымальнікаў даўно ўжо не засталося.

Сваімі акцыямі пратэсту яны, пасутнасці, хочуць зрабіць спробу, кажучы словамі аднаго з удзельнікаў сходу, дамагчыся наступнага: «*Мы Лукашэнку выбіралі, дык хай ён нас слухае*». На жаль, у Рыгоравіча на гэты выпадак падрыхтаваная контрфраза: «*Вы мяне выбралі, дык цяпер слухайце!*»

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Няўтульнае жыццё беларуса

Беларусы выміраюць. На жаль, гэта зусім не метафара. Сёння ўзровень смяротнасці ў нас прыкладна такі, які быў перад Другой сусветнай вайной, а нараджальнасць рэзка скарацілася.

Пасля вайны, голаду, холаду, ліхаліцця, у 1950 годзе нараджальнасць заставалася высокай, а каэфіцыент смяротнасці значна знізіўся. Гэта забяспечыла істотны прырост насельніцтва. А самым «прадуктыўным» быў 1960 год, калі каэфіцыент смяротнасці быў амаль удвая ніжэйшы, чым цяпер. У тыя гады не толькі расла колькасць жыхароў нашай краіны, але і колькасць мігрантаў з Беларусі. Цяжка ўявіць сабе Цаліну, Урэнгой ці іншую «будоўлю камунізму» без беларускіх першапраходцаў.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што высокая нараджальнасць у 40-50-я гады часткова забяспечвалася забаронай на аборты і адсутнасцю розных там гумак-таблетак. Але асноўнай прычынай было тое, што большасць беларусаў жыла на вёсцы, дзе традыцыі наконт гэтага былі натуральнымі і даволі кансерватыўнымі: даў табе Бог жыццё — дай і ты сваім дзецям.



*Апошнім часам медыцына пайшла наперад, і ўзровень дзіцячай смяротнасці моцна знізіўся. Але гэта не ратуе: нараджальнасць падае, насельніцтва скарачаецца.*

Усё змянілася з пачаткам сацыялістычнай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі Беларусі. Яна была імклівай, і дзейнічаў, як і ва ўсім СССР, гулягаўскі прынцып, згодна з якім горад пачынаўся з палатак або, у лепшым выпадку, баракаў. Па-першае, сама барачная сістэма, у якой існавалі адміністрацыйна ізаляваныя адна ад другой мужчынская і жаночая зоны, правакавалі, так бы мовіць, стыхійныя сексуальныя праявы. Па-другое, у выпадку нараджэння дзіцяці, маці-адзіночцы патрэбна было «па законах савецкага гуманізму» выдзяляць калі не асобны пакой, дык асобны вугал у тым самым бараку. Патрэцяе, мацярынства ставіла пад сумнеў вытворчыя паказчыкі. Такім чынам, ніхто не быў зацікаўлены ў нараджэнні дзяцей.

Існавала і многа іншых прычынаў, якія паўплывалі на зніжэнне нараджальнасці. Напрыклад, развіццё вышэйшай адукацыі прывяло да таго, што людзі пачалі «рабіць сабе кар'еру», у тым ліку жанчыны. Службовы рост даваў надзею дасягнуць сямейнага дабрабыту — але планы спраўджаліся ў такім узросце, калі нараджэнне дзіцяці было ўжо немагчымым.

Бытавая неўладкаванасць часта прыводзіла да разводаў. У няпоўных сем'ях дзеці, як правіла, выхоўвалі мацяркі на вельмі сціплыя сродкі, бо сярэдні мужчына не зарабляў дастаткова, каб плаціць прыстойныя аліменты. Калі ж ён заводзіў другую сям'ю, то і яе матэрыяльнае становішча было незайздросным.

Карацей кажучы, дзяржаўная палітыка аховы мацярынства і дзяцінства мела мноства хібаў, забяспечвала такую ахову далёка не ўсім і вельмі няроўна. Акрамя таго, ёсць усе падставы лічыць гэтую палітыку і крывадушнай. Яскрава ўсё праявілася падчас вайны ў Афганістане, калі дзяржава накіроўвала туды на службу адзіных сыноў мацярок-адзіночак або хлопцаў з няпоўных сем'яў. Каб зразумець гэты сапраўдны акт вандалізму, трэба ўспомніць, што нават у царскай Расіі не падлягалі прызыву ў армію апошнія сыны ў сям'і.

Што тычыцца статыстыкі, дык у 1973 годзе, калі зраўнялася колькасць гарадскога і сельскага насельніцтва, упершыню ў гарадах нарадзілася дзяцей больш, чым у вёсках. Паступова гэта прывяло да таго, што вёска аддала гораду ўсе свае чалавечыя рэсурсы. Натуральны прырост насельніцтва стаў зніжацца — і вёска пачала выміраць. Гэта праявілася амаль паўсюды, але перш за ўсё ў Віцебскай вобласці, якая так ніколі і не аднавіла даваенны ўзровень насельніцтва. Да апошняга часу сітуацыя была больш-менш стабільнай на поўдні Гомельшчыны і Брэстчыны, але пасля Чарнобыля і тут усё пакацілася, як з высокай гары.

Ды не толькі тут. Скарачаецца насельніцтва ўсіх абласцей і, чаго раней ніколі не было, самога Мінска. Каб у гэтым пераканацца, неабавязкова зазіраць у справаздачы міністэрства статыстыкі. Цяпер амаль ніхто не едзе ў вёску ў госці да дваюрадных братоў-сясцёр ці пляменнікаў — амаль выключна да дзядулі з бабуляй. У вёсцы ўжо амаль ніхто з маладзейшых і не жыве. А калі так, то і ў Мінск на заробкі, па «лепшае жыццё» няма каму ехаць. А каб і было каму, дзе ў тым Мінску заробкі?

Я неяк узяў аловак і падлічыў: каб бацькі змаглі забяспечыць жыццёвы мінімум сабе і аднаму дзіцяці, яны павінны атрымоўваць у 1,5 раза больш за сярэднестатыстычны заробак. Няма патрэбы тлумачыць, які гэта «жыццёвы мінімум» і якое на яго жыццё.

Як лічаць дэмографы, дзеля таго каб колькасць насельніцтва ўзнаўлялася на былым узроўні, сумарны каэфіцыент нараджальнасці (колькасць дзяцей, народжаных адной жанчынай у дзетароднны перыяд) павінен складаць 2,15. Гэты паказчык паступова пагаршаўся і ўжо ў сярэдзіне 80-х гадоў апусціўся ніжэй за крытычную рысу простага ўзнаўлення насельніцтва. Карацей кажучы, беларусы сталі выміраць яшчэ падчас застою, а перабудова, якая пачалася з «паскарэння», і на самай справе значна паскорыла гэты працэс.

У 1993 годзе, бадай, упершыню за неваенную гісторыю, статыстыка зафіксавала спад насельніцтва ў Беларусі. Апошнія чатыры гады нараджальнасць скарачаецца ў нас усё хутчэй, а смяротнасць, наадварот, павялічваецца.

Карацей кажучы, жыццё беларуса кароткае і няўтульнае. Як бы нам яго ні нахвальвалі.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Обнаженные итальянки помогают детям Чернобыля

**Под таким несколько странным девизом прошла курьезная акция в итальянском городе Империя — в одном из красивейших курортов на берегу моря, в нескольких километрах от Сан-Ремо.**

Несколько молодых девушек — служащие, домохозяйки, студентки — по собственной инициативе сфотографировались обнаженными для эротического календаря. Вся прибыль от продажи этого издания «только для взрослых» будет передана местной организации «Форум», оказывающей помощь детям Беларуси. Благодаря этой организации дети из пострадавших от чернобыльской аварии районов отдыхают на Лигурийской ривьере каждое лето.

«Да, мы голые, — говорят девушки. — Но только ради любви к этим несчастным детям!» Тринадцать местных красавиц запечатлены в эротических позах для каждого месяца наступившего года, а также на январь. (Примером послужил недавний успех аналогичного календаря со снимками одной из известных итальянских актрис.) Инициаторам этого «чернобыльского» проекта не пришлось долго уговаривать девушек раздеться. Наоборот, некоторые уже записались на съемки для следующего календаря.

Календарь поступил в продажу 1 февраля и пользуется огромным успехом. Мужчины Империи буквально атакуют все местные киоски, с нетерпением желая увидеть фотографии голых соседок по дому.

В Италии нагота привлекает к себе огромное внимание. Даже самые известные, самые солидные издания негласно соревнуются между собой, еженедельно помещая на своих обложках эротические фотографии. Без этого нечего и рассчитывать на хороший покупательский спрос. Однако не замедлила появиться и отрицательная реакция на этот проект. «Вы говорите — благотворительная цель? — комментирует мэр Империи господин Давиде Берио. — Я не одобряю этот поступок. Не всегда цель оправдывает средства».

**Джузеппе Д'АМАТО,**
*«Новые Известия»*

## Смертная казнь – преграда на пути в Европу

**Если Украина в ближайшее время не объявит мораторий на смертную казнь, на очередной сессии Парламентской Ассамблеи Совета Европы будет поставлен вопрос о полномочиях украинской делегации.**

Как сообщил член украинской делегации в ПАСЕ, депутат Верховной Рады Евгений Мармазов, в июне ПАСЕ заслушает отчет Украины о выполнении всех обязательств, взятых на себя при вступлении в Совет Европы. Глава постоянной делегации парламента Украины в ПАСЕ Борис Олейник в этой связи напомнил, что в украинском парламенте уже подготовлено 4 законопроекта о введении моратория на исполнение смертных приговоров.

В ноябре 1997 года правовой комитет ПАСЕ предупредил Украину, что, если президент страны или глава парламента официально не объявят о моратории на смертную казнь, делегация республики не будет допущена на сессию ПАСЕ.

*Интерфакс*

# Беларусь – незалежная правінцыя Еўропы



***«Сітуацыя ў Беларусі характарызуецца перш за ўсё тым, што людзі маюць вельмі нізкі ўзровень нацыянальнай і дзяржаўнай свядомасці. Адсюль вынікаюць галоўныя праблемы краіны — у тым ліку эканамічныя».***

Так пачынаецца інтэрв'ю вядомага беларускага пісьменніка Сакрата Яновіча польскай *Gazecie Wyborczej*. Наш зямляк, які жыве і працуе ў Польшчы, глядзіць на сітуацыю ў Беларусі як бы з боку, але разам з тым і як чалавек, які ніколі не парываў сувязяў з нашай краінай, сваёй Бацькаўшчынай.

Прапануем чытачам вытрымкі з інтэрв'ю Сакрата Яновіча.

## Правінцыйнае мысленне

У савецкія часы Беларусь падверглася моцнай русіфікацыі, і негатыўныя наступствы праяўляюцца нават не столькі ў рускамоўнасці значнай часткі насельніцтва, але перш за ўсё ў «расійскім» спосабе мыслення. Фактычна многія людзі мысляць катэгорыямі, у якіх Беларусь выступае толькі як правінцыя Расіі. Натуральна, такія падыход не спрыяе фарміраванню пачуцця ўласнага лёсу народа, нават свайго кавалка хлеба. У выніку сапраўднай хваробай грамадства робіцца правінцыялізм — і ў знешняй палітыцы дзяржавы, і ў самаўсведамленні асобнага чалавека.

На жаль, такімі ж правінцыйнымі выступаюць у Беларусі і асноўныя рэлігійныя канфесіі. Прычым праваслаўная царква адназначна прапаведуе ідэю «саборнасці», што азначае строгую еднасць царквы пад кіраўніцтвам Маскоўскага патрыярха. А каталіцкі касцёл у Беларусі арыентуецца перш за ўсё на людзей, якія лічаць сябе палякамі. Такім чынам каталіцызм сам выводзіць сябе на ўзбочыну грамадскага жыцця.

Той факт, што і Божае Нараджэнне, і Вялікдзень святкуюцца два разы, у адпаведнасці з традыцыямі абедзвюх галоўных канфесій, — несумненна выводзіць Беларусь на еўрапейскі ўзровень у плане рэлігійных узаемадачыненняў. Аднак несумненна і тое, што падвойныя святы былі ўведзены яшчэ ў першыя гады дзяржаўнай незалежнасці, а сённяшні рэжым глядзіць на гэта з маўклівай незадаволенасцю.

## Любоў і гнеў натоўпу

Што ж да Лукашэнкі, то варта памятаць: ён прыйшоў да ўлады ўвогуле законным шляхам. Яго сапраўды можна назваць «народным» прэзідэнтам (як ён сам характарызуе сябе), але толькі калі пад словам «народ» разумець «натоўп». Лукашэнка, як агню, баіцца нацыянальных лозунгаў. Ён выдатна ведаў, што натоўпы не ўспрымаюць высокіх ідэй, а хочуць хлеба, відовішчаў, «справядлівасці».

Беларусь атрымала (менавіта атрымала, а не здабыла) незалежнасць у 1991 годзе. Ці можа страціць яе цяпер? Ды не. І не толькі таму, што 10-мільённая Беларусь легла б залішнім цяжарам на расійскі бюджэт. Прычына яшчэ і ў тым, што Крэмль мае ў асобе афіцыйнага Мінска адданага і важнага ў геапалітычным сэнсе партнёра на міжнароднай арэне. І, нарэшце, гэты шлюб беднага з бедным, голага з босым пагражае моцнай хваляй расчаравання, найперш сярод беларусаў. У выніку праклація можа чакаць і Лукашэнка, і Масква, і «братні рускі народ».

Ад любові да нянавісці заўсёды адзін крок. Асабліва, калі гаворка ідзе пра натоўп.

## Доўгі шлях

Сённяшняя беларуская апазіцыя не мае шанцаў на перамогу. Ва ўсякім разе, я не магу сабе ўявіць такую сітуацыю ў бліжэйшай будучыні. І зусім не таму, што сілавыя структуры беспардонна абыходзяцца з арганізатарамі і ўдзельнікамі масавых акцыяў пратэсту. Слабасць апазіцыі — у прэтэнзіях на «інтэлігенцкую элітарнасць». Гэта марны шлях у грамадстве, дзе жывуць пераважна прадстаўнікі *homo soveticus*.

На змены ў гэтым краі паўплываюць два асноўныя фактары. Першы — змена пакаленняў, а гэта патрабуе часу. Другі — сапраўднае адраджэнне сапраўднага нацыянальнага руху. А гэта немагчыма без дапамогі ўсёй Еўропы. Несумненна патрэбнае спонсарства ў справе выдання беларускіх кніг, стварэння недзяржаўных беларускіх гімназій, ліцэяў, універсітэта. Патрэбны стыпендыі для творчай моладзі, стажыроўкі, культурныя і навуковыя абмены. Усё тое, што спрыяе фармаванню грамадзянскай супольнасці.

Я свядома не ўзгадваю тут пра эканоміку. У гэтай сферы ёсць адзін безумоўны закон: камерцыйная выгада і прыбытак. Так гістарычна склалася, што беларуская эканоміка арыентуецца перш за ўсё на расійскія рынкі, і беларусы не маюць шанцаў развіцця сваёй гаспадаркі без сувязі з расійскай. А іншы замежны капітал сюды яшчэ доўга не прыйдзе.

*Пераклала*
**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Мірон адзначыў юбілей Каліноўскага

**Славуты Мірон, які неаднаразова вывешваў беларускія нацыянальныя сцягі ў самых недаступных месцах у Віцебскай вобласці, гэткім жа чынам адзначыў 160-я ўгодкі нараджэння Кастуся Каліноўскага.**

У ноч з 1 на 2 лютага ён вывесіў бел-чырвона-белы сцяг на лініі электраперадач напругаю 110 тысяч вольт. Сцяг можна бачыць на вышыні 35 метраў непадалёк шашы Віцебск—Смаленск, каля райцэнтра Лёзна. Зняць сцяг будзе вельмі складана, бо ніякага пад'езду да гэтага месца няма: штандар вісіць проста над рачулкай Машна, з абодвух бакоў яе — равы.

Як стала вядома, да сцяга прымацаваная запіска: «Акцыя ў падтрымку гераічных палітвязняў — Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Кабанчука. Мірон».

Юры КАСІЧ

# Дзеці слабеюць

**З кожным годам дзеці ў нашай краіне хварэюць усё больш і больш. Прычым рэзка ўзрасла колькасць інфекцыйных захворванняў.**

Упершыню тэндэнцыя росту захворванняў на сухоты (туберкулёз лёгкіх) зафіксаваная ў 1991 годзе, з таго часу паказчык вырас на 67%. Як сведчыць міністэрства статыстыкі, у канцы мінулага года было зафіксавана 43 выпадкі захворванняў на 100.000 насельніцтва. Асабліва шмат хворых на сухоты ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях, і большасць складаюць дзеці і падлеткі.

За 1997 год колькасць так званых дзіцячых інфекцыяў узрасла настолькі, што выклікае сур'ёзную трывогу спецыялістаў. Так, захворваемасць на коклюш узрасла ў 2,6 раза, краснуху — у 1,5 раза, ветраную воспу — на 40%. Значна пачасціліся таксама выпадкі шкарлятыны, віруснага гепатыту, вострых кішэчных інфекцыяў.

Медыкі звязваюць гэтую трывожную сітуацыю з двума асноўнымі фактарамі. Па-першае, у выніку істотнага зніжэння ўзроўню жыцця людзі, і ў першую чаргу дзеці, не атрымліваюць паўнацэннага харчавання, асабліва адчувальны дэфіцыт вітамінаў. З другога боку, зніжэнне імунітэту, уласных ахоўных сілаў арганізма — адно з найбольш распаўсюджаных наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і радыеактыўнага забруджвання.

БелаПАН

# Гармонік – у калекцыю

**Жыхар Мазыра Іван Назаранка ўжо шмат гадоў калекцыянiруе гармонікі.**

Аматар-музыка мае 5 тульскіх гармонікаў і баянаў, 9 гармонікаў-трохрадак і гонар калекцыі — баян, якому ўжо 80 гадоў.

У Назаранкі ёсць і мініяцюрны гармонік, зроблены ўласнымі рукамі. Менавіта з ім мазыранін удзельнічаў у конкурсе «Грай, гармонік любы» і стаў лаўрэатам.

Я.К.

# Эканомілі – і пагарэлі

**Вялікі пажар адбыўся на Асіповіцкім дрэваапрацоўчым прадпрыемстве.**

Згарэла палова цэха сталярных вырабаў. Дзякуй Богу, людзі ўсе цэлыя, але страты склалі больш за мільярд рублёў. Прычыны пажару ў тым, што ў цэху ґруба парушаліся правілы тэхнікі бяспекі.

Іван ЗАСАДА

# Знялі апошнюю кашулю

**Два з паловай мільярды рублёў і амаль 14 тысяч долараў ЗША страціў завод самаходных камбайнаў, які ўваходзіць у склад вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш».**

Такі штраф выпісаў заводу камітэт дзяржаўнага кантролю Гомельскай вобласці. Прадпрыемствы ледзь працуюць — а іх абвінавачваюць у «недакладнасці падаваемых звестак аб рэштках гатовай прадукцыі». А хто ж тую прадукцыю купіць?

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

**КРЫМІНАЛ**

# Яшчэ адна жанчына-банкір за кратамі

**Да чатырох гадоў пазбаўлення волі асуджаная былы дырэктар Бабруйскага філіялу ААБ «Беларусбанк» Ніна Перагудава.**

Суд прызнаў банкірку вінаватай у атрыманні хабару, махлярстве і злоўжыванні службовым становішчам. Адбываць пакаранне Н.Перагудава будзе ў калоніі агульнага рэжыму.

Дарэчы, Бабруйскаму філіялу «Беларусбанка» яўна не шанцуе на дырэктараў — папярэднік Н.Перагудавай таксама асуджаны.

# Грошы скрала маладая дзяўчына

**Вельмі прыкры інцыдэнт адбыўся ў спорткомплексе «Раўбічы» пад Мінскам падчас правядзення там чэмпіянату Еўропы па біятлоне.**

У міліцыю звярнуўся грамадзянін Чэхіі, кіраўнік каманды чэшскіх біятланістаў. Ён паведаміў, што невядомы, падабраўшы ключы, прабраўся ў ягоны нумар у гатэлі спорткомплексу і выкраў каля 400 долараў ЗША. Следча-аператыўная група ўстанавіла, што «падбіраць ключы» не спатрэбілася. Крадзеж учыніла 19-гадовая пакаёўка гатэля, жыхарка Астрашыцкага Гарадка.

БелаПАН

# Бард пасля турмы

Адседзеўшы пяць месяцаў у гродзенскай следчай турме, вярнуўся ў Гомель вядомы бард Андрэй Мельнікаў. Ён быў арыштаваны за незаконны пераход беларуска-літоўскай мяжы. Суд вынес рашэнне пакараць хлопца пяццю месяцамі пазбаўлення волі. Аднак гэты тэрмін Мельнікаў ужо адседзеў, таму проста ў зале суда ён быў вызвалены з-пад варты.

З 30-гадовым Андрэем Мельнікавым гутарыць наш карэспандэнт.



*Андрэй Мельнікаў гаворыць, што і пасля турмы ён будзе пісаць і выконваць песні.*

**— Андрэй, як ты апынуўся на беларуска-літоўскай мяжы?**

— 10 жніўня я павінен быў выступаць на канцэрце для беларусаў у Вільні. Але ў мяне не было візы, і я вырашыў рызыкнуць — трапіць у Літву наўпрост праз лес. Мне гэта ўдалося.

Пасля канцэрта пайшоў назад праз мяжу, але гэтым разам не пашанцавала: мяне затрымалі літоўскія памежнікі і перадалі беларускім. Такі ж лёс напаткаў і барда Алега Мізулу з Гродна.

**— Вы не спрабавалі ўгаварыць літоўцаў, каб адпусцілі вас?**

— Мізула звяртаўся да літоўскіх памежнікаў з такімі просьбамі, гаварыў, што нас на Беларусі пасадзяць. Але яны не верылі, толькі смяяліся. Магчыма, тут адыгралі ролю і антыбеларускія настроі літоўцаў, якія ўзмацніліся пасля мінулагодняга здарэння.

**— Якога здарэння?**

— Летась беларусы Літвы рыхтавалі з'езд маладых беларусаў у Вільні, на што атрымалі згоду ад літоўскага ўрада, а таксама абяцанне, што на яго правядзенне будуць выдаткаваныя пэўныя сродкі. Але час з'езда набліжаўся, а грошы не паступалі. Тады адзін з арганізатараў мерапрыемства зрабіў варты жалю ўчынак. Ён зняў дзяржаўны літоўскі сцяг у мэрыі Вільнюса і заявіў уладам, што верне яго, калі будуць пералічаныя сродкі на з'езд. «Герой» быў арыштаваны і асуджаны, а сярод літоўцаў, абражаных знявагай нацыянальнага сцяга, узмацніліся антыбеларускія настроі.

**— Як было ў турме — вельмі цяжка?**

— Я б не сказаў, што мне было цяжка, хутчэй складана. Жыццё там не зусім такое, як на волі, але гэта таксама жыццё і там таксама людзі. Я лічу, што прайшоў своеасаблівыя курсы павышэння маёй чалавечай кваліфікацыі. Прыкладам, я больш рэальна паглядзеў на жыццё і на сябе.

**— Можаш падзяліцца турэмным вопытам?**

— Я асабіста для сябе зрабіў тры высновы. Па-першае, турма жыве ўзаемападтрымкай. Трапіў за краты — падтрымлівай агульны рух, не шкадуй нічога і нікога. Пастарайся ўспрыняць турэмныя «традыцыі» і не выходзь за іх межы. Па-другое, не вер і не бойся. Па-трэцяе, у турме лягчэй мацнейшым, падлейшым і разумнейшым. А найбольш карысныя за кратамі прафесіі — лекары, казачнікі, мастакі і адвакаты.

**— Дарэчы, ты ведаў, што адбываецца на волі? Газеты чытаў?**

— У прынцыпе, я даведваўся пра асноўныя падзеі жыцця ад свайго адваката Уладзіміра Кісялевіча. Прыносілі ў камеру і газеты, праўда, у асноўным «Советскую Белоруссию» і «Рэспубліку», толькі двойчы — «Народную волю». СВАБОДУ чытаць не даводзілася.

**— Ты пісаў за кратамі песні?**

— Я, відаць, не магу працаваць у няволі. А вось Алег Мізула, ведаю, напісаў нізку турэмных вершаў, з якіх можа атрымацца паэма.

**— Як збіраешся жыць далей?**

— Вучуся завочна на пятым курсе філалагічнага факультэта Гомельскага ўніверсітэта. Хачу больш увагі даць сваёй сям'і. Лічу, што мая жонка і сын пацярпелі значна больш за мяне. Турма, як ні дзіўна, палепшыла нашы сямейныя ўзаемаадносіны. Хацелася б іх захаваць. Вельмі шкадую, што мой двухгадовы сын пяць месяцаў пражыў без мяне. Баюся, што як бацька я страціў шмат цікавага і карыснага. Безумоўна, буду пісаць і выконваць песні, хачу таксама прыдумаць некалькі казак...

А на заканчэнне хачу падзякаваць усім, хто цікавіўся маім лёсам і дапамог мне і маёй сям'і перажыць гэтыя месяцы. У тым ліку вельмі ўдзячны і газеце СВАБОДА.

*Гутарыў*
**Уладзімір СТАРЧАНКА**

















© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1147 Нумар падпісаны ў друк 03.02.98 (15:00) Наклад — 13.470